# ГОЛАС ЦАРКВЫ

РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ

**Выдае Епархіяльная Управа Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Нью-Ёрку. Рэдагуе Калегія. Адрыс Рэдакцыі: "The Voice of the Church", 108 Wyckoff St., Brooklyn 1, New York, N. Y. Tel.: ULster 2-7552**

**Цана 50 цэнтаў**

**№ 17 ВЯЛІКДЗЕНЬ, 1963 ГОД 9**


**БОЖАЙ МІЛАСЬЦЮ**

СЬВЯШЧЭННЫ САБОР ЕПІСКАПАЎ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ НА ЧУЖЫНЕ

Да ўсечэснога Духавенства, прэпадобнага Манаства, і ўсіх багалюбівых вернікаў нашых на Чужыне й на Бацькаўшчыне прабываючых

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

„Нябёсы весяляцца, зямля радуецца, бо ХРЫСТОС УВАСКРОС — радасьць вечная!"
(Вялікодны Канон).

**УЛЮБЛЕНЫЯ ДЗЕЦІ НАШЫЯ!**

Ізноў добры, любы, міласэрны й чалавекалюбны Айцец наш Нябесны прыводзіць нас, пасьля дзён збаўленнага для нас пакаяньня, да Сьветлага й Радаснага ХРЫСТОВАГА УВАСКРАСЕНЬНЯ! І мы, вашыя Архіпастыры, зьвяртаемся да вас, духоўных дзяцей сваіх, з словамі міру й любові, каб „радасьць вашая была поўная" (1 Іо. 1, 4). Так, мы можам радавацца з таго, што мы жывем, што з Ласкі Божае можам пакаяцца, змыць грахі свае сьлязамі жалю, злучыцца з Госпадам, крыніцаю сьвятла, шчасьця й спасеньня.

У гэты „урачысты, слаўны, сьвяты дзень" усё заклікае нас да радасьці. Першым словам Спасіцеля нашага пасьля Ягонага Уваскрасеньня было слова радасьці: „Радуйцеся! сказаў Ён Жонам Міраносіцам" (Мц. 28, 9). Як ведам, радасьць бывае зямная-цялесная, і духоўная-нябесная. Радасьць цялесную даюць нам найчасьцей спакусы злога духа: гардыня, самалюбства, лакомства, помста, марныя ўцехі цела. Такая радасьць скора прамінае, і часта пакідае па сабе незадаваленьне, сум, боль душы нашае. Радасьць жа духоўная весяліць душу нашую, бо яна ёсьць багаславенствам Божым за нашыя добрыя ўчынкі. Яна асьвячвае нас дабрадатным праменьнем

— дарамі Духа Сьвятога. Таму яна сталая, дабрародная, сьвятая — поўная!

І ад часу Уваскрасеньня Хрыстовага нашая сьв. Праваслаўная Царква, асабліва-ж у гэты слаўны Вялікі Дзень, дабравесьціць нам слова радасьці нябеснае: „Увайдзеце ў радасьць Госпада Бога свайго", гаворыць яна нам вуснамі сьв. Іоана Златавуснага. І ўсе мы, слухаючы велічныя словы гэтыя: ХРЫСТОС УВАСКРОС, напаўняемся радасьцю незямною! І як нам ня радавацца, калі ў гэты Вялікі Дзень мора міласьцяў Божых ахінае душы нашыя! Як нам не весяліцца, калі навет прарокі, якія толькі вачамі душаў сваіх бачылі гэты слаўны Дзень, і ўжо цешыліся (Іо. 8, 56). Як нам не весяліцца, калі душы нашыя адчуваюць, што гэта пачатак тае бясконцае радасьці, якая чакае на ўсіх веруючых „на новай зямлі, у новых Нябёсах" (2 Пёт. 3, 13).

І гэтае слаўнае, радаснае для нас дзіва перадаюць нам словы: ХРЫСТОС УВАСКРОС! Яны гавораць нам пра перамогу Хрыста над сьмерцю, пра адкрыцьцё нам дзьвярэй Раю, пра шчасьце вечнае! Бо-ж: „Як у Адаме ўсе ўміраюць, так у Хрысьце ўсе ажывуць!" (1 Кар. 15, 22). Няма ўжо для нас сьмерці: мы ўжо несьмяротныя! Таму навет у часе сьмерці цела кожнаму веруючаму ясна зьзяе сьвятло несьмяротнасьці, па слову сьв. Апостала: „Хрыстос пераменіць цела нашае, каб яно сталася падобным да цела славы Яго" (Філ. 3, 21). І гэтую радасьць сваю мы выяўляем у Сымвале Веры нашае: „Чакаю ўваскрасеньня мертвых".

Вось у гэтым і ёсьць нашая радасьць поўная! І ня дзіва, што калі толькі душы нашыя пачуюць сьпеў: ХРЫСТОС УВАСКРОС! дык радасьці свае ўжо паўстрымаць ня могуць! Бо яны ўжо бачаць Хрыста, Спаса нашага, у расчыненых Нябёсах! І ў сваім захапленьні й любові яны ўжо гатовыя абняць увесь сьвет, кожнага, навет няпрыяцеля свайго, абдарыць слаўным Вялікодным пацалункам, прывітаць яго, сказаць яму: Браце! ХРЫСТОС УВАСКРОС! Будзем радавацца й весяліцца!

Вось гэтая радасьць поўная, і як мора бязьмежная, яшчэ нядаўна панавала ўсюды на нашай любай Радзіме на Вялікдзень! І Сам Хрыстос хадзіў тады па зямлі нашай, усіх багаслаўляў, радаваўся зь імі. А Ён вечна той самы. І цяпер Ён напэўна ходзіць па сумнай зямельцы нашай, усіх пацяшае, багаслаўляе ўдома, і тых на катаргах і высылках, прамаўляе да іх: „Нічога ня бойцеся, толькі веруйце! Я перамог сьвет" (Іо. 16, 33). Таму ўсе будзем радавацца й весяліцца, натхнёна вітаць сябе Вялікодным пацалункам, зь любоўю прамаўляць: ХРЫСТОС УВАСКРОС! Тым болей, што Ён з Ласкі Свае да нас памагае нам будаваць Ягоныя й нашыя сьв.

Цэрквы, і гэтым ясна сьветчыць нам, што неўзабаве з гробу ўстане, уваскрэсьне й нашая любая пакутніца Маці-Беларусь, каб навекі зьзяць у славе Яго, як адзінага нашага Нябеснага Айца й Валадара.

І ў гэтай радасьці сваёй мы натхнёна вітаем вас, усечэсныя Айцы, і любыя Браты й Сёстры нашыя, і ўвесь наш вялікі Беларускі Народ, у Веры, Любові й Надзеі як на шчасьце вечнае ў Нябёсах, так і на хуткае вызваленьне зь няволі любае Радзімы нашае, зь Вялікім, Сьветлым і Радасным Сьвятам, перамогаю й трыумфам Неба й зямлі: УВАСКРАСЕНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ, ВЯЛІКАДНЕМ! Радуйся й весяліся Беларускі Народзе! Адзінымі вуснамі й адзіным сэрцам натхнёна сьпявай хвалу Госпаду: ЗАПРАЎДЫ ХРЫСТОС УВАСКРОС! Зазьзяла Сьвятло сьвету! І гэтае Сьвятло разьвее неўзабаве усю злую цемру на Радзіме нашай на шчасьце й спасеньне ўсіх нас, бо для таго Ён і прыйшоў, памер і УВАСКРОС!

Ласка й Мір Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца, і Прычасьце Сьвятога Духа няхай будзе з усімі вамі. АМІНЬ.

СЬМІРЭННЫ АРХІЕПІСКАП **СЕРГІЙ**
Глава Сьвяшчэннага Сабору Епіскапаў
Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае
Царквы

СЬМІРЭННЫ АРХІЕПІСКАП **ВАСІЛІ**
Сакратар Сьвяшчэннага Сабору Епіскапаў
БАПЦ на Чужыне.

Дана Году Божага 1963
месяца красавіка
Аўстралія-Амэрыка.

## МАЛІТВА

### ПРАЧЫТАННАЯ ЎЛАДЫКАЮ ВАСІЛІЕМ У СЭНАЦЕ ЗША З НАГОДЫ 45-х УГОДКАЎ 25-га САКАВІКА

У імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа. Усемагутны Божа, Ойча наш Нябесны! Мы, дзеці Твае, у пакоры й радасьці славім Тваю Боскую ласкавасьць да нас, і шчыра складаем Табе глыбокую падзяку за багаславенства, якім Ты абдарыў Амэрыку й яе народ.

Мы горача просім Цябе, наш Творца й Спасіцель, будзь міласьцівы да нашага любага Прэзыдэнта: узмацні яго, і памажы яму ў ягоных цяжкіх заданьнях, у ягоным змаганьні за свабоду па ўсім сьвеце. Багаславі нашага Віцэ-Прэзыдэнта, дай успамогу яму, дай навагі й мудрасьці сябром Сэнату гэтага, гэтай цьвярдыні міру, справядлівасьці й свабоды. Міласэрны Ойча! Мы просім Ласкі Твае для душаў усіх тых нашых вояў-герояў, што памерлі на полі бою, супакой іх у Валадарстве вечнае Славы Твае.

Прадвечны Божа, Спасе наш! Пры нашым нараджэньні ўжо Ты ўлажыў у сэрцы нашыя імкненьне да свабоднага жыцьця. Мы молім Цябе сяньня, у дзень 45-х Угодкаў Абвешчаньня Незалежнае

Беларускае Дзяржавы, глянь ласкавым вокам Тваім на паняволены Народ наш Беларускі, узмацні надзею яго й памажы яму вызваліцца ад грубае бязбожнае тыраніі нялюдзкіх валадароў.

Усемагутны Божа й Ойча ўсіх народаў! Мы горача просім Цябе, памажы нам, каб Беларускі Народ і ўсе іншыя паняволеныя народы здабылі Тваю багаслаўленую свабоду, і гэтым занялі належны ім пасад сярод вольных народаў сьвету пад Тваім агульным кіравецтвам, пад Тваёю апекаю, у Тваёй любові й справядлівасьці.

Мы з пакораю схіляем галовы свае перад Табою, Божа й Спасе наш, і зь Вераю молім Цябе: прымі гэтую малітву нашую, багаславі Злучаныя Штаты Амэрыкі, і нашую Маці-Беларусь.

Няхай цудоўнае імя Тваё, Божа й Ойча наш, праз Сына Твайго Госпада нашага Ісуса Хрыста, у адзінстве з Духам Тваім Сьвятым жыве, пануе й зьзяе ў сэрцах нашых, славіцца й багаславіцца цяпер і заўсёды, і навекі. Амінь.

**Сяргей Палуян**

## ХРЫСТОС УВАСКРОС!

...Хрыстос Уваскрос!

Зь вялікім Сьвятам адвечнага аджыўленьня віншую цябе, Вялікі Беларускі Народзе! Гэтай вялікай начы страсі зь сябе ўсю пагарду, увесь бруд, каторым аблепліваюць цябе ад вякоў. Чыста вымыйся, прыбярыся ў найлепшую вопратку, каб хоць на адзін дзень стаў ты роўным з усімі. Ідзі туды, дзе пачуеш гэтыя вялікія словы:

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Услухайся ў іх. Якая вялікая сіла! Які ўсёажыўляючы зьмест захованы ў іх! Ці ня чуеш, як радасьцю надзеі, радасьцю скорага ўваскрасеньня вее ад гэтых словаў: ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Радуйся, мой родны краю! Надзея, як жывучая вада, ліецца ў тваю душу. Скора і ты ўваскросьнеш ад доўгага мёртвага сну. Вясна прыйшла і да цябе. Хрыстос Уваскрос!

Над Ім зьдзекаваліся. Яго білі па твары, сьцёбалі бізуном. Плявалі на Яго. Кпілі зь Яго. У канцы расьпялі, і расьпятага не перасталі мучыць. Сьпечаныя смагай вусны зьвільжвалі воцтам і жоўцю. Ён памёр на Крыжы паміж двох ліхадзееў. Але ўсё-ж-такі — Хрыстос Уваскрос!

Уваскрос Хрыстос, і Крыж, раней знак пагарды й сораму, зрабіўся сьвятыняй усяго сьвету. Мукі Хрыстовыя змылі ўсё зь яго. І штогоду вялікай вясеньняй начы тысячы цэркваў і касьцёлаў сьвецяцца агнямі сьвечак, ліецца радасны пераклік званоў, крыж падымаецца над міліёнамі схінёных галоваў, і ў паветры разносіцца радасны сьпеў —

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Што гаворaць табе званы, Беларускі Народзе? Ці ня віншуюць яны цябе яшчэ і з тваім уласным вялікім сьвятам? Скора-ж і ты ўваскросьнеш!

Ад вякоў пагарджалі табой, тваёй мовай. Ад вякоў мелі за быдла, годнае толькі на цяжкую, надсільную работу. Не давалі табе расьці й разьвівацца. Воцтам чужой культуры зьвільжвалі твае сьпечаныя смагай сьвятла вусны. Лепшых тваіх сыноў адрывалі ад цябе, прымушалі іх рабіцца здраднікамі. А цяпер пышаюцца імі, называюць іх сваімі. І яны такі іхныя. А хіба-ж яны не любілі цябе? Хіба лепшы жар свайго сэрца ахвяравалі не табе? А дзе яны? Іх няма з табой! З самага малку адарвалі ад роднае глебы, атруцілі здрадай. І іх, тваіх дзяцей, маюць за зброю проці цябе. Цябе каталі. Ты цярпеў мукі, але ня ўмёр. Глыбока, глыбока ты захаваў сваю душу. Хрыстос быў з табою ў тваіх муках і Ён разам з табою цярпеў іх. Колькі разоў расьпіналі Яго разам з табой! Больш разоў, чым ёсьць пяшчынак на дне мора! Але кожнага году па ўсёй Беларускай зямлі разносіўся клік:

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

...І ты ўваскросьнеш, мой родны краю! Ськівеш з шыі ярмо адвечнага гора й нуды.

Ты ўжо перастаў плакаць. Ты падняў свой твар. З надзеяй ловіш зыкі званоў:

— Прачынайся ад сну, Беларусь! Годзі стагнаць ды жаліцца, жальба нічога ня дасьць табе. Уставай! Ідзі будаваць зруйнаваную бацькаўшчыну!

Наперад, па шчасьце! Хай злое ўсё дрогне!

Вясна ўжо на сьвеце — Хрыстос Уваскрос!

Я бачу, як сьвятлее твой твар, мой родны краю. І, поўны сілы і веры, я крычу ўва ўсю моц тваім нівам, лясом і балотам, тваім панурым вёскам, тваім пакрыўджаным сыном:

— Зь вялікім Сьвятам віншую! Зь вялікім Сьвятам, Вялікі Беларускі Народзе!

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

# ПОМНІ...

## ГАЛОЎНАЕ ЗАДАНЬНЕ

,,Сьцеражы чалавека гэтага. Калі так ці іначай яго ня стане, дык тваё жыцьцё будзе за яго жыцьцё... І калі раб твой заняўся тым і гэтым, яго ня стала" (3 Царст. 20, 39-40).

Словы гэтыя апавядаюць нам пра аднаго чалавека, які не апраўдаў даверу свайго гаспадара, ня выканаў важнага заданьня. І калі

мы глянем на сваё жыцьцё, таксама пабачым, што й мы часта, займаючыся „тым і гэтым", занядбалі сваё галоўнае заданьне. Адсюль многія старэйшыя людзі часта й кажуць: о, калі-б я мог стацца йзноў маладым, я бы ўжо зусім іначай жыў і дзеяў! Нажаль, я найчасьцей займаўся ня тым, чым трэба, а як цяпер бачу, проста драбніцамі.

Вось яно так найчасьцей і бывае ў жыцьці. Чаму? Таму, што многа лягчэй займацца справамі дробнымі, нязначнымі, апраўдваючы сябе прыблізна так: вось няхай толькі я ўпраўлюся зь імі, тады ўжо займуся галоўным заданьнем нашага жыцьця, тым болей, што я маю яшчэ ... час! А час гэты як на дзіва хутка ўцякае, і мы раптам бачым, што ўжо позна думаць аб галоўным. І мы толькі з жалем разважаем: о, калі-б я йзноў стаўся маладым ...

Гасподзь Міласэрны ўжо пры нашым нараджэньні абдарыў кожнага з нас тым ці іншым талентам: моваў, сьпеву, музыкі, нахілу да навукаў, любові да пазнаньня Яго ў сусьвеце, і ў нашых душах праз Ягоныя Адкрыцьці. Для чаго? Для вялікіх, прыгожых чынаў нашых у сямі й у грамадзе. І дзехто з нашае моладзі добра выкарыстоўвае гэтыя свае таленты: у вольны час узбагачае сябе рознымі дапаможнымі ведамі паводля сваіх нахілаў, і гэтым спрычыняе радасьць сабе, бацьком і сваім суродзічам. Нажаль, ёсьць ня мала й такіх, якія не зьвяртаюць увагі на гэтыя свае дары, заглушаўць іх, праводзячы свой вольны час каля тэлевізара, або захапляючыся пустымі коміксамі ці падобнай мякінай, і ўрэшце сьцьвярджаюць, што ў галаве пустка, што на пашану цяжка спадзявацца, бо асабістае вартасьці амаль ніякае няма, бо займаючыся „тым і гэтым", занядбалі галоўнае.

А гэта бывае асабліва тады, калі бацькі не зьвяртаюць належнае ўвагі на сваіх дзяцей: ужо ад малога ня вучаць іх што можна, а чаго ня можна рабіць, ня вучаць іх маліцца, не прыводзяць з сабою ў сьв. Царкву, сваім собскім прыкладам не паказваюць ім, якое гэта дабро й багацьце нашае любіць Бога й бліжніх сваіх, высьцярагацца ўсякага зла, ад малога прывыкаць да любові й дабра. Нажаль, бацькі найчасьцей займаюцца тут толькі „тым і гэтым", а не галоўным. А каб яшчэ, барані Божа, дзеці ім не перашкаджалі займацца „тым і гэтым", яны пазбаўляюцца іх тым, што пускаюць у рух ... тэлевізію! І вынікі такога „рупнага" ўзгадаваньня вядомыя: дзеці вырастаюць духовымі калекамі, без усякае любові, безь ніякіх нахілаў да дабра. І калі яшчэ з малога ў іх і была іскра Божая, якая заклікала іх да нечага ўзвышанага, прыгожага, дык яна ўжо заглохла, пагасла. І пакідаюць яны бацькоўскі дом з пустым сэрцам і туманом у галаве, таму й зусім не прыгатаваныя да рэчаў,

што маглі бы быць для іх дабрадзействам у жыцьці, а таксама й радасьцю для бацькоў.

Звычайна жыцьцё рассыпае перад намі многа розных магчымасьцяў. І нашым заданьнем ёсьць выбраць зь іх толькі самыя адпаведныя, і прысьвяціць ім увесь свой час. Усе-ж іншыя пакінуць без увагі, хоць бы яны й падманвалі нас тым, што яны й лёгкія й прыемныя. Бо мы павінны заўсёды памятаць, што: калі мы робім толькі малыя рэчы, мы ніколі ня зробім вялікіх. А толькі вялікія рэчы даюць нам запраўднае задаваленьне, вартасьць, твораць нам імя ў народзе.

Нажаль, вельмі мала сярод нас такіх, што маюць адвагу зрабіць гэты разумны й годны выбар, і адвярнуцца ад раскрадаючых наш час пустых прыемнасьцяў, найчасьцей згубных для нашых добрых намераў. Мы часта не разумеем, якое гэта дабро й багацьце нашае: сіла нашага духа-характару, які адзіна можа адкінуць усё другараднае, нізкае, благое, дзеля накіраваньня нашае ўвагі на галоўнае, вялікае, прыгожае, годнае імя — чалавек, здольнае паставіць нас у шэраг нашых продкаў-герояў.

І тут самае вялікае, бо галоўнае заданьне ўсіх нас, як малодшых, так і старэйшых, ёсьць: злучыцца з Абсалютным Духам, Прамудрым Госпадам Богам, палюбіць Яго, пазнаць Пляны Ягоныя адносна нас, і з пакораю й радасьцю, паводля сілаў і магчымасьцяў нашых, служыць Яму. А служыць Яму мы можам усе, ня толькі духаўнікі. Як? Выкарыстоўваючы дары Яго, таленты нашыя ўсюды, дзе толькі мы працуем: у школе, офісе, гандлю, хвабрыцы, удома, у грамадзе, памятаючы словы вялікага Апостала Паўла: Усё, што вы робіце, рабеце гэта на славу Божую. А як-жа мы можам усё рабіць на славу Божую ў нашай штодзённай працы? Вельмі проста. Бог ёсьць найвышэйшае Дабро. Таму, калі мы ўцякаем ад усякага зла, а робім толькі дабро для сябе й для іншых, мы ўжо гэтым выпаўняем Волю Божую, служым Яму. Больш таго, такія нашыя добрыя чыны раней ці пазьней пабачаць усе, і будуць дзякаваць Богу за нас ды ня толькі словам, але таксама й добрымі чынамі сваімі, а гэтым мы яшчэ болей паслужым Богу, бо станемся Ягоным сьвятлом на ліхтары.

А Бог ніколі не пакіне нас без нагароды Свае. Ужо тут на зямлі Ён абдорыць нас Ласкаю Саваёю: прасьвятліць, узмоцніць розум наш, пашле нам супакой, задаваленьне, радасьць. І натхнёная душа нашая будзе вясьці нас ужо толькі да ўсяго прыгожага, узвышанага, сьвятога. Нам ужо й у галаву ня прыйдзе займацца „тым і гэтым", бо мы ўжо падняліся на ўзвышшы духа: злучыліся з крыніцаю ўсякага дабра, красы й сьвятасьці, з Богам. Мы ўжо будзем толькі

шкадаваць тых унізу, што бачаць радасьць сваю толькі ў „тым і гэтым", марнуюць свой час, а пасьля, калі ўжо позна, наракаюць, а часта й плачуць.

А яны яшчэ болей горка плакалі-б, калі-б ведалі такія словы Госпада: „Пакліч Мяне, і Я адкажу табе, і адкрыю табе рэчы вялікія, магутныя, якіх ты ня ведаеш" (Ерам. 33, 3). Хто можа зьмерáць веліч такіх рэчаў, як: сіла нашага духа, натхненьне, тым болей — Ласка Божая, Ягонае багаславенства? А ўсё гэта даступнае для нас, калі толькі мы паклічам Яго, бо-ж Ён ёсьць Падаўца ўсіх гэтых скарбаў нашых.

Калі-б нейкі багацей запрапанаваў нам вялікую ахвяру, ці-ж мы адмовіліся-б ад яе? Калі-б у клопатах нашых да нас прыйшоў мудры чалавек і даў нам добрую раду, ці-ж мы ня дзякавалі-б яму? Калі-б лекар вылячыў нас ад цяжкое хваробы, ці-ж мы ня славілі-б яго? Калі-б мы ў лесе ці ў пустыні заблудзілі, ці-ж мы ня цешыліся-б з правадніка? Калі-б мы сярод бурных хваляў мора ўжо страцілі надзею на ратунак і раптам пабачылі каля сябе дапаможную руку, ці-ж мы не цалавалі-б яе?

А тымчасам жыцьцё нашае гэта часта й бурнае мора, і безнадзейная пустыня, і цёмны лес, і пасткі спакусаў і вагонь хваробаў! Усё гэта спрычыняе нам ня толькі шмат цяжкасьцяў, ставіць безьліч пытаньняў, але й часта прыводзіць нас на раздарожжа, у тупік, на край бездані. Мы часта ня ведаем што й як рабіць, і нам ужо здаецца, што няма ратунку, а тымчасам ратунак гэты, гэтая крыніца нашае сілы й спасеньня побач нас!

Нам трэба толькі пайсьці за голасам: Пакліч Мяне, і рэчы вялікія, магутныя, аб якіх ты навет ня ведаеш, будуць даступныя табе! Так, здабыць сабе забясьпечаньне ўсякіх патрэбаў, абарону ад усякага зла, хваробаў, выхад з усякага тупіка, сілу на ўсякія цяжкасьці, адказ на ўсякія пытаньні, крыніцу для запраўднае радасьці, мудрасьці, велічы й натхненьня, гэта значыць скарыстаць зь Ягоных запросінаў: паклікаць Яго, Усемагутнага, Прамудрага й Любові поўнага Госпада Бога.

Так, Ён заўсёды поўны розных скарбаў для нас! Больш таго, Ён усьцяж запрашае нас: прыходзьце, бярыце, карыстайце! А тымчасам мы звычайна ня чуем голасу гэтага, бо займаемся „тым і гэтым", таму й застаемся духовымі бездапаможнымі жабракамі, ня хочам глянуць на прапанаваныя нам рэчы вялікія й магутныя: стацца сынамі Божымі, Ягонымі супрацоўнікамі, скарыстаць з гэтае нашае радаснае й велічнае прывілегіі.

Таму, дарагі чытачу, помні аб гэтым. І каб ты некалі таксама не сказаў: о, калі-б я йзноў стаўся маладым . . . , падумай добра пра

сябе зараз жа, цяпер. Ды ня толькі падумай, але й зараз жа пастанаві адкінуць усякае „тым і гэтым”, і перайдзі ня толькі словам, але й чынам да твайго галоўнага заданьня: пакліч Госпада Бога. І калі ты гэта зробіш, тады на парозе твайго вечнага жыцьця ты скажаш ужо нешта зусім іншае, а менавіта: горача дзякую Табе, Усемагутны Божа, за вялікую Ласку Тваю да мяне. Дзякуючы Тваёй Міласэрнасьці й Любові, я добра пражыў свой век на зямлі, і цяпер з радасьцю йду да Цябе, любага Айца майго ў Нябёсах!

Таму, ня толькі помні, але й вырашай. І помні прыгэтым, што толькі так ты добра паслужыш і свайму любаму Народу, бо: Служыць Богу, гэта значыць — служыць народу! І народ твой Беларускі будзе ўдзячны табе, і памяць тваю захавае навекі. І гэта ня гледзячы на тваё становішча, бо аб тваёй вартасьці вырашае Бог, а Ён глядзіць не на становішча, а на сэрца, і Ён ведае як праславіць верных слугаў Сваіх. Бо-ж дзеля гэтага Ён і прыйшоў на зямлю, памер і Уваскрос! І калі ты выканаеш галоўнае заданьне тваё, тады й для цябе ХРЫСТОС УВАСКРОС! Тады й да цябе адносяцца словы Яго: Дзе Я, там і слуга Мой будзе! **С. Клім**

## ЗБЫЛОСЯ!

Было ўжо папаўдні, калі на Галгофу прывялі двох ліхадзеяў ды Ісуса Хрыста. Сьвежая зямля гарбкамі ляжала ля выкапаных ямаў. Жаўнеры прымусілі натоўп адыйсьці ад іх, і былі паложаныя тры крыжы.

Сонца ясна зьзяла кругом, песьцячы сваім праменьнем лісьцё міртаў, пальмаў, кіпарысаў. Але далёка на даляглядзе з усіх чатырох старон сьвету пачалі зьбірацца хмары. Навет для вясны гэта было нязвычайнае зьявішча, каб адначасна адусюль пачалі зьбірацца хмары. Аднак, амаль ніхто не зьвярнуў на гэта ўвагі. Бо-ж перад вачамі ўсіх было штосьці важнейшае: тры засуджаныя, старожа з малаткамі й цьвякамі ды жаўнеры з пікамі. Вось ужо пачуўся загад кожнаму засуджанаму легчы на свой крыж.

Справа гэтая была простая й хуткая: ня толькі Ісус Хрыстос, але й ліхадзеі былі змучаныя, супраціўляцца не маглі. Адныя з старожы трымалі рукі й ногі Ісуса, а другія прыбівалі іх да дрэва вялікімі вострымі цьвякамі. Ручаінкамі пацякла кроў. Пасьля Крыж паднялі, паставілі ў яму, засыпалі яе, і — прысуд быў выкананы.

Вось так нарэшце воля Кайяфы й Анны трыумфавала. Ісус Хрыстос быў укрыжаваны між двама злачынцамі. Тры крыжы зь нявымоўна церпячымі на іх жывымі людзьмі кінулі свае цені на пасмутнелую зямлю. Можна было-б падумаць, што з такім заканчэньнем злоба людзкая ўціхамірыцца, але-ж не! Па загаду Пілата

ўвярху на Крыжы Хрыстовым была прыбітая дошчачка з напісам: ІСУС НАЗАРАНІН, ЦАР ІУДЭЙСКІ на трох мовах: лацінскай, грэцкай і арамейскай. Калі аб гэтым даведаўся Кайяфа, ён страшна абурыўся, і зараз-жа пабег да Пілата. Што ты напісаў? адразу, не пануючы над сабою, зьвярнуўся ён да Пілата. Калі ты наагул хацеў нешта напісаць, дык трэба было напісаць: Ён сказаў, што Ён ёсьць Цар Іудэйскі.

Пілат, які ўжо пад уплывам жонкі шкадаваў свае слабасьці, устаў і злосна сыкнуў на Кайяфу: што я напісаў, тое напісаў! Размова скончаная!

Тымчасам на Галгофе натоўп усьцяж павялічваўся. Узоры ўсіх былі скіраваныя на сярэдні Крыж. Хрыстос глянуў на гэтае мора галоваў, пасьля падняў вочы Свае ўгару, і прамовіў: Ойча, выбач ім, бо яны ня ведаюць, што робяць.

Выбач ім? Усім? А дзе-ж Ягоныя прыяцелі? Дзе Пётра, Іоан? Дзе прадаўца Юда, якому яшчэ можна было папярэдзіць таго ліхадзея справа? Яшчэ ў падножжа Крыжа сцякаючаю крывёю змыць свой сьмяротны грэх! А дзе рэшта, дзевяць Апосталаў? Чаму вы пакінулі Мяне? Пакінулі, бо ўсё яшчэ поўнасьцю ня ўвералі, што Я й Айцец — Адно! Перапалохаліся! Але, вось, ужо зусім блізкі дзень, калі навет сьмерць ня будзе для вас страшнаю, бо яна ўжо перастане для вас існаваць.

Жаўнеры жа пад Крыжам дзялілі вопратку Яго, і за адну зь іх, хітон, кідалі жэраб'е. І глянуў Хрыстос уніз і пабачыў яшчэ штось: Ён усё-ж ня быў пакінуты. Бо, вось, прабіўшыся праз натоўп, ля Крыжа былі тры Марыі: Марыя, Маці Яго, Марыя Клеопава на каленях побач Яе, і Марыя Магдаліна з абліччам сваім на зямлі ля іх.

А хто-ж гэта стаіць з другога боку Ягонае багаслаўленае Маці? Іоан! Так, гэта ты, любы Іоане! Ты крыху спазьніўся, бо стараўся прывясьці праз натоўп да Крыжа Яе, Матулю Маю! Зь бязьмежнаю пашанаю й любоўю незямною Ён глянуў на Яе. І хоць кроў змывала Прачыстае Цела Яго, а ўсё-ж Ён яшчэ змог выявіць пацеху й успамогу для церпячае Матулі Свае, а таксама й знак пашаны да любага вучня Свайго. Моцна й чула Ён прамовіў: Жанчына, вось сын Твой! А для Іоана: Вось Маці Твая! І з таго часу Іоан узяў Яе да сябе.

Чым жа была дасюль Марыя для Іоана? Бязумоўна, найбольш пасьля Ісуса, шанаванаю асобаю. А, вось, цяпер Ён Сам, Сын Божы, сказаў яму: Яна — Маці твая! Як жа ясна Сам Хрыстос гэтым запаведаў кожнаму з нас, што Яна сталася ўжо й для кожнага з нас ня толькі найлепшаю прыяцелькаю, найбольш зь людзей шанаванаю асобаю, але й МАЦІ БОЖАЮ! Так, з таго часу Яна, з волі Яго,

для ўсіх нас: Прачыстая, Прэсьвятая, Слаўная, Нябесная Маці нашая! А паколькі Яна — Маці нашая, дык усе мы таксама й Яе дзеці, і як такія павінны бязьмежна любіць і шанаваць Яе, бо такая воля Самога Госпада Бога й Спаса нашага Ісуса Хрыста.

А тымчасам неба ўсё болей цямнела, хмары гусьцелі. Перадсьмяротныя пакуты Міласэрнага Укрыжаванага, памяць аб Ягоных добрых учынках і цудах, плач шматлікіх жанчын і любоў да вялікага Мучаніка пачалі апаноўваць сэрцы ўсіх. А гэта для дзекаго паказалася небясьпечным. І вось выйшлі наперад сябры Сынэдрыону з слугамі сваімі, і пачалі моцна зьняважаць Яго.

Другіх спасаў, а Сябе ня можа спасьці! Калі Ён Хрыстос, няхай зыйдзе з Крыжа, і мы ўверуем у Яго! О, крычалі слугі! Калі Ты Сын Божы, спасі Сябе Самога! Зыйдзі з Крыжа! І навет сам Кайяфа, што стаў побач маўклівага Анны, крыкнуў: Ён казаў, што Ён ад Бога! Няхай жа цяпер Бог спасе Яго, калі Ён запраўды Пасланы Богам!

А Прачыстая Кроў і далей сьцякала з прабітых рук і ног Яго, паліваючы й змываючы зямлю й грахі нашыя. І адзін з ліхадзеяў, той зьлева, таксама пачаў зьневажаць Яго, кажучы: калі Ты Сын Божы, спасі Сябе й нас! Але другі, справа, сунімаў яго, і казаў: ці ты не баішся Бога? Мы засуджаныя справядліва за злыя ўчынкі свае, а Ён жа нічога благога не зрабіў! І глянуўшы на Ісуса з пакораю сказаў: Памяні мяне, Госпадзі, калі прыйдзеш у Царства Тваё! Сьвятло зазьзяла над галоваю Хрыстоваю, і зьвярнуўшы вочы Свае направа Ён цьвёрда адказаў: Запраўды кажу табе, сяньня жа ты будзеш са Мною ў Раю!

А цемра ўзрастала. Пачуўся гром, пачаў падаць дождж. Аднак, натоўп застаўся пры Крыжы. І, вось, бальшыню, навет старожу пачаў агартаць нейкі страх. Бо ня толькі страшная цемра сярод дня, але асабліва гэты бязупынны, як бы поўны гневу, усё глыбейшы таямнічы гул грому, які інакш быў добра ведамы ім кругом Ерусаліму як вясеньні, звычайна вельмі прыемны гром. Незразумелы неспакой і жах прайшоў праз натоўп. Была шостая гадзіна папаўдні. І, вось, Ён ізноў прамовіў: Элі! Элі! Ламма савахфані!

Што гэта? Чаго Ён хоча? Адзін з старожаў намачыў губку воцтам, насадзіў яе на трысьцё і даў Яму піць. А другія казалі: гэта Ён кліча Ільлю. Паглядзім, ці Ільля прыйдзе спасьці Яго? А тымчасам Ісус гэтым сказаў: Божа Мой! Божа Мой! Навошта Ты Мяне пакінуў?

Кайяфа жа, пачуўшы гэтыя словы, узрадаваўся. Схапіўшы за руку свайго цесьця Анну, ён зь вялікім задаваленьнем пачаў гаварыць: ці ты чуў гэтыя Ягоныя словы, мой валадару? Яшчэ так ня-

даўна Ён цьвярдзіў, што Ён ёсьць Бог, а цяпер, бачыш, пытаецца ў Сябе, навошта Ён пакінуў Сябе Самога! Даволі сьмешна, няпраўда? Ясна, Ён звычайны ... Але раптам зямля затраслася ад удэру магутнае маланкі.

А ўсё-ж Кайяфа яшчэ пачуў голас Анны, голас поўны страху й роспачы: ты звычайная недарэка, недалужнае дзіцё! Спадару Анна, добра я пачуў? Зусім добра! Ты, Кайяфа, першасьвяшчэньнік, аднак, поўнасьцю забыўся на сьв. Пісаньне. Асабліва-ж на 21-шы Псальм, які пачынаецца славамі: Божа Мой! Божа Мой! Навошта Ты Мяне пакінуў? Ды на такія далейшыя словы: Бо сабакі абступілі Мяне, грамада злачынцаў аблягае Мяне. Пракалолі яны рукі Мае, і ногі Мае. Яны дзеляць вопратку Маю між сабою, і аб адзежы Мае кідаюць жэраб'е ...

Спадару Анна, што ты кажаш!? Але, ты хіба ня хочаш адыйсьці? Я йду дамоў, павярнуўшыся востра адказаў Анна. Я толькі хачу прыпомніць табе яшчэ, што далей гаворыцца пра Добрага Пастыра, ды: І навет праходзячы далінаю ценю сьмяротнага, Я не баюся напасьці, бо Ты са Мною!

Але́, так Хрыстос цяпер паўтарыў словы, сказаныя Ім даўно пра Сябе праз прарока Давіда. І ў апошні раз, зь нявымоўнаю любоўю глянуўшы на Маці Сваю, і на ўсіх любых Сваіх, Ён прамовіў: ЗБЫЛОСЯ!

Кайяфа ўжо ведаў, што гэта значыць. Усе прадсказаньні прарокаў, як і Ягоныя ўласныя прадсказаньні на зямлі, споўніліся! Яны гаварылі аб тым, што Месія-Спасіцель народзіцца ад Дзевы ў Віфлееме, месьце Давідавым. Ён будзе тварыць вялікія цуды. Ён дасьць людзям Боскую Навуку Сваю. Яго будуць перасьледваць, урэшце засудзяць на сьмерць на Крыжы. Так, усе яны адназгодна й ясна гаварылі, што Ён, цяпер у паніжэньні, да ліхадзеяў залічаны, і паміраючы на Крыжы, і ёсьць абяцаны Месія-Спасіцель!

Полымям вагню пачалі паліць Кайяфу ўсе гэтыя прадсказаньні! Не, не! страшна ўскрыкнуў ён і пабег ад Крыжа, задзіўляючы ўсіх навакол яго.

А тымчасам Хрыстос, прамовіўшы гэтае слова: Збылося! уздыхнуў, і лагодна, з палёгкаю сказаў апошнія Свае словы. Сказаў так, як Ён заўсёды гаварыў, будучы яшчэ ў Назарэце, калі йшоў спаць. Марыя добра памятала гэта: супакойна, лагодна, з палёгкаю й радасьцю Ён кожны дзень гаварыў: ОЙЧА! У РУКІ ТВАЕ АДДАЮ ДУХ МОЙ! І цяпер, апошні раз сказаўшы гэта, Ён схіліў галаву, і — заснуў: аддаў дух.

І, вось, заслона ў царкве разарвалася надвое ад верху да нізу, тады як рука людзкая навет не дакранулася да яе. І зямля страшна

затраслася, і каменьні параспадаліся. І магілы расчыніліся, і целы памерлых сьвятых уваскрэсьлі, выйшлі з магілаў сваіх і зьявіліся многім.

А ўся старожа ў страху пападала на зямлю, няведамкі аддаючы зямны паклон Спасіцелю ўсяго роду людзкога. Усе-ж любячыя Яго, на чале з Прачыстаю, абыймалі Крыж і Прачыстыя ногі Яго, плачучы моцна. А рымскі сотнік, што выконваў судовы загад, зь нявымоўнаю пашанаю глянуў спачатку на Укрыжаванага, а пасьля на Прачыстую Маці Яго. Усе гэтыя нязвычайныя здарэньні: Ойча, выбач ім, бо яны ня ведаюць, што робяць, а пасьля цяжкая цемра, страшны ўдэр маланкі, трасеньне зямлі ды незямное аблічча Маці Яго, спачатку адняли мову яму. І толькі праз некалькі часін ён глыбока ўздыхнуў, і ўжо на дзіва радасна, цьвёрда й урачыста сказаў сваім памочнікам: Запраўды, Чалавек гэты СЫН БОЖЫ!

І калі Хрыстос прыняў пакаяньне ліхадзея, і ўзнагарадзіў яго жыцьцём вечным у Раю, дык тым болей Ён прыняў і багаславіў гэтую Веру сотніка Лонгіна пры Крыжы Сваім, пазволіўшы яму пасьля прыняць слаўную карону мучаніка. Вось так збылося абяцаньне Міласэрнага Госпада Бога: сьмерцю й Уваскрасеньнем Спасіцеля нашага адчыніліся дзьверы Раю для ўсіх веруючых у Яго. Радасьць нашая нявымоўная й вечная! ЗБЫЛОСЯ! **Галя**

## БАГАБОРЦЫ ШАЛЕЮЦЬ

Многа хрысьціянскае крыві пралілі паганскія рымскія імпэратары. Аднак, надарэмна, бо кроў мучанікаў яшчэ болей узмацняла Веру Хрыстовую. Больш таго, яна пачала пранікаць навет у шарэгі вяльможаў, бо многія зь іх балюча адчувалі сваю духовую цемру, шукалі сьвятла, мэты нашага жыцьця, а гэта давала збаўленная для нас Навука Хрыстовая. Таму тагачасныя валадары пачалі нішчыць хрысьціянства іншым спосабам: шляхам розных ілжывых цьверджаньняў, што Хрыстос ня ёсьць Бог.

І калі мы глянем на сучасных багаборцаў, дык пабачым тое самае. І яны доўгі час пралівалі рэкі хрысьціянскае крыві, а пасьля, калі пабачылі, што Вера Хрыстовая ўсё-ж і далей жыве ў народзе, больш таго, навет пранікае ў іхныя ўласныя шарэгі, пачалі нішчыць яе таксама празнымі ілжывымі цьверджаньнямі, што Хрыстос ня толькі ня ёсьць Бог, але Яго, быццам, наагул ніколі ня было, што рэлігія супярэчыць навуцы, перашкаджае ім будаваць „рай" на зямлі. І хоць яны змабілізавалі на змаганьне з рэлігіяй усіх сваіх вучоных, пісьменьнікаў, тысячы прапагандыстых, поўнасьцю падпарадкавалі сабе кіравецтва царкоўным жыцьцём ды насадзілі туды сваіх агентаў, усё было надарэмна! Вера Хрыстовая й далей усьцяж

пашыралася, пачала знаходзіць падобных да першых хрысьціян непахісных вернікаў як сярод моладзі, так і сярод людзей займаючых адказныя становішчы ды сярод вучоных, бо й яны балюча адчуваюць сваю духовую цемру, шукаюць мэту жыцьця.

І багаборцы йзноў пачалі шалець. Заходняя прэса нядаўна падала вестку аб тым, якім страшным спосабам яны зьліквідавалі Пачаеўскую Лаўру на Украіне. Амаль усіх манахаў яны або замучылі, або кінулі ў дамы духова хворых. Сотні вернікаў зьвярнуліся да міжнародных установаў з плачам, просячы памагчы ім супраць гэтага барбарства. Нядаўна заходняя прэса перадала распараджэньне гэтых багаборцаў аб закрыцьці адзінае Духоўнае Сэмінарыі ў Беларусі, якая знаходзілася ў Жыровіцкім манастыры. З жахам можна чакаць, што й гэты манастыр хутка спаткае лёс Пачаеўскае Лаўры.

Вось так багаборцы шалеюць. А тымчасам кіраўнікі савецкае праваслаўнае царквы й далей, галоўна праз архіеп. Нікадыма, аблудна пашыраюць па сьвеце прапаганду аб . . . свабодзе рэлігіі ў СССР! І, нажаль, не бяз посьпеху: іх запрашаюць у Нью Дэлі на З'езд Сьвятовае Рады Цэркваў, на Родос на З'езд Праваслаўных Цэркваў, на Ватыканскі Сабор, іх цяпер запрасілі на З'езд пратэстанскіх цэркваў у Флемінгу й у Дэнверы, куды прыехала цэлая дэлегацыя з 16-ці епіскапаў на чале з архіеп. Нікадымам.

Але, Бог не бяз міласьці. У Флемінгу знайшоўся адзін пратэстанскі пастар, які адважна сказаў савецкаму экзарху ў Амэрыцы, архіеп. Іоану, праўду ў вочы: „Вы ўсе — агенты ў расах вашага бязбожнага ўраду!" Адначасна адбыліся дэманстрацыі на вуліцы супраць перасьледваньня царквы й рэлігіі ў СССР. Тое самае сталася й у Дэнверы, дзе таксама адбыліся дэманстрацыі як супраць гэтае дэлегацыі, так і супраць рэлігійнага тэрору ў СССР.

Можна спадзявацца, што гэты пачатак прасьвятленьня затуманенага аблуднаю прапагандаю розуму на Заходзе знойдзе сваё рэха ўва ўсім рэлігійным сьвеце, і паложыць канец гэтай аблудзе багаборцаў ды іхных агентаў у расах. Таму будзем верыць, што багаборцы шалеюць перад сваім канцом, падобна тым — рымскім.

**Я. П.**

# ХРОНІКА

НЮ-ЁРК. Усё, што вы робіце, рабеце гэта на Славу Божую, бо ў гэтым дабро нашае, вучыць нас сьв. Апостал Павал. І нашая сьв. Праваслаўная Царква ды яе традыцыі й звычаі, і маюць на мэце гэтае нашае дабро як дачаснае, так і вечнае. Пацьверджаньнем гэтае праўды зьяўляецца й наш абход з Крашчэнскаю вадою, як багаславенствам Хрыстовым з Іардану, для нашых прыхажан у дамох іхных. Усе яны цешыліся й радаваліся з гэтага багаславенства Хрыстовага, якое прыносіў ім у іхныя памешканьні Уладыка Васілі з дапамо-

гаю самаахвярных Спадароў М. Тулейкі, Б. Данілюка, А. Каптуровіча й Я. Казьлякоўскага.

Нашыя пабожныя продкі казалі: госьць у хату — Бог у хату. А тут прыходзіў да прыхажан нашага Сабору запраўды Сам Бог, бо-ж Ісус Хрыстос з Іардану! Прыходзіў і багаслаўляў іх, бо-ж яны любяць Ягоную й нашую сьв. Царкву, не шкадуюць для яе ані часу, ані сродкаў. Таму й у часе абходу яны, а часам і суседзі іхныя, радаваліся, горача дзякавалі за малітвы й асьвячаньне памешканьняў як словам, так і чынам: сваімі шчодрымі ахвярамі. І тут мы з радасьцю сьцьвярджалі, што запраўды праведнік ня будзе пакінуты Богам: нашыя прыхажане й матар'яльна ўсьцяж узмацняюцца, павялічваюць дабрабыт свой. Таму сёлета гэты абход наш і ўзмацніў нашую Царкоўную Касу сумаю звыш 500 даляраў, за што слава Богу, і гарачая падзяка нашым прыхажанам.

## САКАВІКОВЫЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ Ў НЮ-ЁРКУ

Як ужо амаль сталася традыцыяй у нас, і цяпер былі выданыя Праклямацыі Губэрнатарам Штату Ню-Ёрк і мэрам Ню-Ёрку аб тым, што Дзень 25-га Сакавіка зьяўляецца Днём Беларускае Незалежнасьці.

Наступным радасным для нас мамэнтам было прачытаньне Малітвы за Амэрыку й за вызваленьне нашае Маці-Беларусі Уладыкаю Васіліем у Сэнаце ЗША.

Як і ў папярэднія гады, і цяпер Віцэ-Прэзыдэнт ахвотна запрасіў нашую дэлегацыю да сябе ў кабінэт на АУДЭНЦЫЮ. Супольная размова была, хоць і кароткая, але вельмі шчырая,, амаль сяброўская. Закончылася яна супольнай фатаграфіяй. Тымчасам званок паведаміў, што Сэсія Сэнату пачынаецца. Віцэ-Прэзыдэнт прывёў Уладыку Васілія на сваю трыбуну ў Сэнаце й абвесьціў, што Яго Высокапрэасьвяшчэнства Уладыка Васілі, Архіепіскап БАПЦарквы, зараз прачытае Малітву. Усе сэнаторы й госьці ўсталі, і Уладыка Васілі натхнёна прачытаў яе, за што Віцэ-Прэзыдэнт падзякаваў яму й сказаў: а цяпер вы госьць нашага Сэнату, можаце паглядзець на нашую працу, з чаго Уладыка й скарыстаў, праз нейкі час праводзячы прыемныя размовы з рознымі сэнатарамі.

І як заўсёды, і сёлета Служба Божая Уладыкі Васілія ў Нядзелю 24-га сакавіка была вельмі ўрачыстая. Наш Кафедральны Сабор быў амаль запоўнены вернікамі. Вельмі прыгожа пяяў наш Хор пад кіравецтвам рэгента Сп. А. Каптуровіча. Захапленьне вернікаў было гімнам падзякі Богу за Ягоную Ласку да нас: наш векапомны Акт 25-га Сакавіка. І гэтым гімнам падзякі Госпаду была й натхнёная пропаведзь Уладыкі, якую ён закончыў: З намі Бог! Трэйці цуд Божы й наш: свабода Беларусі, калі мы й далей будзем з Богам, нямінуча станецца, ужо блізка. Служба Божая закончылася гімнам „Магутны Божа".

Пасьля адбылася Акадэмія, якая цяпер была супольнаю зь іншымі беларускімі арганізацыямі, і была запраўды ўдалая. Распачалася яна Малітваю Уладыкі Васілія, і закончылася сьпевам Хору з Саўт Рывэру.

РАДАСНЫЯ ПАДЗЕІ. Гэты год запраўды радасна распачаўся для нас, бо, як яшчэ ніколі, у нашым Кафедральным Саборы ўжо былі абвенчаныя тры маладыя пары! Чын Шлюбаў выканаў Уладыка Васілі ў асысьце Мітр. Прат. а. Сьцяпана Войтэнко.

Першы Шлюб адбыўся 20-га студзеня. Вельмі паважаны й самаахвярны наш брат Сп. Янка Ніхаёнак вянчаўся з Сп-шняю Ірэнаю Макарэвіч. Шлюб

гэты быў для нас вельмі прыемны й таму, што Вясельле адбылося ў нашай царкоўнай залі. Таму, а таксама й дзеля самых маладых, заля была запоўненая нашымі прыхажанамі, якія запраўды весяліліся так, як гэта некалі было ў нас удома ў часе Вясельляў. Будучы ў сваёй прыгожай залі, кожны адчуваў сябе так, як у сябе ў вёсцы, у Беларусі!

Другі Шлюб адбыўся 2-га лютага. Выхадзіла замуж Оля Мельяновіч, дачка ўсімі паважанага Спадарства Мельяновічаў, за амэрыканскага афіцэра Янку Трылера. Маці яго, старая эмігрантка, нашая суродзічка. І ня дзіва, што й сын яе мае беларускую душу, сымпатыі да нас, што мы бачым ужо з таго, што свой Шлюб ён узяў у нашай сьв. Царкве.

І зразумела, што й нашыя прыхажане адказалі як маладой, так і яму сваімі сымпатыямі. Амаль усе яны зьявіліся як на Шлюб, так і на Вясельле, а таксама некаторыя блізкія й прыяцелі Спадарства Мельяновічаў з Кліўлэнду.

Трэйці Шлюб адбыўся 17-га лютага. Быў абвенчаны наш прыяцель, сын старых беларускіх эмігрантаў, Сп. Мікалай Абрамовіч з Сп-шняю Ангелінаю Рабэкай. Малады ўжо нарадзіўся ў Амэрыцы, аднак, усё-ж ня толькі разумее але й гаворыць пабеларуску, а галоўнае мае шчырую беларускую душу. Відаць бацькі яго былі добрымі беларусамі, і гэтую сваю слаўную беларускую душу перадалі сыну. І ён, як сумленны чалавек, не загубіў яе, хоць бацькі ягоныя ўжо даўно памерлі. Таму й нашыя прыхажане радасна віталі яго, сардэчна віншавалі яму разам зь ягонаю сымпатычнаю жонкаю.

Ад усяе душы мы шчыра вітаем усе гэтыя тры пары маладых і горача жадаем ім Ласкі Божае: задаваленьня, радасьці й усякіх посьпехаў на іхным сужэнскім шляху. Шчасьці Божа!



СЬВЕЖАЯ МАГІЛКА. На вялікі жаль, мы ўжо перажылі й сумную падзею: 2-га сакавіка адыйшоў ад нас у вечнасьць наш паважаны брат, грамадзкі дзеяч і настаўнік, сьв. п. Канстанцін ВАДЭЙКО.

Чын паховінаў і самыя паховіны на беларускім могільніку ў Нью Брансьвіку выканаў Уладыка Васілі. Уладыка прыгожа разьвітаўся з пакойнікам, зазначыўшы, што ён быў запраўдным чалавекам, добрым мужам і верным хрысьціянінам, ды выказаў сваё глыбокае спачуцьцё і пацеху ягонай засмучанай жане Сп-ні Зіне. Прыгожа разьвіталіся з пакойнікам таксама Сп. ген. Ф. Кушаль, Сп. Шукелойць і Сп. Ф. Родзько. Пасьля паховінаў адбылася памінальная трапеза. Тут прамаўлялі: Сп. інж. М. Рагуля й Сп. інж. В. Русак.

ВЕЧНАЯ ЯМУ ПАМЯЦЬ!

---

Высокапрэасьвяшчэньнейшых Уладыкаў нашых, Архіепіскапаў СЕРГІЯ й ВАСІЛІЯ, Высокапрэпадобных Архімандрытаў, Мітрафорных Пратаіерэяў, Пратаіерэяў, Прэпадобных Айцоў, дастойных Рэгентаў і Харыстых, Хвальныя Царкоўныя Рады, Брацтвы й Сястрыцтвы, дзяржаўныя, навуковыя й грамадзкія Установы, усіх вернікаў сьв. БАПЦарквы, чытачоў „Царкоўнага Голасу”, і ўвесь наш Вялікі Беларускі Народ сардэчна вітаем з радасным Вялікаднем: ХРЫСТОС УВАСКРОС!

**ЕПАРХІЯЛЬНАЯ УПРАВА БАПЦ АМЭРЫКІ И КАНАДЫ.**